


# THE WALKING DEAD

20

$2.99
$3.70 CAN



ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ #20. ПЕРАКЛАД АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ

KIRKMAN • ADLARD • RATHBURN




ОХ, ПРЫВІТАННЕ, МЭГІ. ШТО?

Я ЖАДАЮ ПАРАЗАМАЎЛЯЦЬ З ТАБОЙ... У НАС НЕ БЫЛО МАГЧЫМАСЦІ ЗРАБІЦЬ ГЭТА З ТЫХ ЧАСОЎ ЯК... З ТЫХ ЧАСОЎ ЯК Я ЗАСТРЭЛІЛА ТОМАСА.

ШТО СКАЖАШ?

ВЯДОМА.

АЛЕ АНДРЭА ЖАДАЛА САБРАЦЬ УСІХ, КАБ ПАКАЗАЦЬ ШТОСЬЦІ. НАША РАЗМОВА МОЖА ПАЧАКАЦЬ, ПАКУЛЬ СКОНЧЫЦЦА СХОД?




ЛОРЫ ПРЫЙДЗЕ?
НЕ. ЯНА ВЕЛЬМІ ДРЭННА СЯБЕ АДЧУВАЕ. ЗДАЕЦЦА, ШТО РАНІШНЯЯ МЛОСНАСЦЬ СТАНОВІЦЦА КРУГЛАСУТАЧНАЙ. УСЁ ДОБРА... ПРОСТА ЯНА НЕ ЖАДАЕ, КАБ ЯЕ БАЧЫЛІ Ў ТАКІМ СТАНОВІШЧЫ.
Я ЁЙ РАСПАВЯДУ ПРА ЎСЁ, ШТО ТУТ БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА.


ПРАБАЧЦЕ, ШТО ПРЫМУСІЛА ВАС ЧАКАЦЬ. БЫЛО КРЫХУ ЦЯЖКАВАТА ЦЯГНУЦЬ ВАЛІЗКУ ЎГАРУ. Я ПАСПРАБУЮ УЗНАГАРОДЗІЦЬ ВАС ЗА ЧАКАННЕ.
АЛЕ... НІЧОГА НЕ АБЯЦАЮ.
ВЫ НАПЭЎНА ЗАЎВАЖЫЛІ, ШТО Я ЗМЯНІЛА СВАЮ ВОПРАТКУ НА ТУРЭМНЫ КАМБІНЕЗОН, ЯКІ РОБІЦЬ ПОГЛЯД ЭКСЭЛА БОЛЬШ ДРУЖАЛЮБНЫМ.


ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ПАД ЧАС НАШАГА ДОЎГАГА ШЛЯХУ МЫ НІ РАЗУ НЕ БАЧЫЛІ КРАМЫ З ВОПРАТКАЙ. ХОЦЬ ВАШЫ РЭЧЫ ЯШЧЭ ДОБРЫЯ, АЛЕ ХУТКА ПРЫЙДЗЕЦЦА ШУКАЦЬ НЕЙКУЮ АЛЬТЭРНАТЫВУ.
ДАВАЙЦЕ ПАГЛЯДЗІМ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ. НЕКАТОРЫЯ З НАС ПРАЦЯГВАЮЦЬ СМЯРДЗІЦЬ НАВАТ ПАСЛЯ ТАГО ЯК ПАМЫЮЦЬ ВОПРАТКУ. ГЭТАЯ ВОПРАТКА ПРАЙШЛА ПРАЗ ШМАТ ЧАГО...


SNIFF
ВЫ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ БЫЛІ ЗДЗІЎЛЕНЫЯ, КАЛІ Я ПАДЫХОДЗІЛА НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ І ЗДЫМАЛА МЕРКІ, ТАК?


КОЖНЫ З НАС ТУТ ПРАЦУЕ ЦІ ШУКАЕ ПРАЦУ. Я ВЫРАШЫЛА ЎЗЯЦЬ НА СЯБЕ АБАВЯЗКІ ШВАЧКІ. Я ШЫЮ НЯДРЭННА. І ГЭТА МНЕ ПАДАБАЕЦЦА, ШТО ВЕЛЬМІ ІСТОТНА.
ТАКІМ ЧЫНАМ, Я ПЕРАГЛЯДЗЕЛА ТЫСЯЧЫ РЭЧАЎ, ЯКІЯ МЫ ЗНАЙШЛІ ТУТ. Я ПАДАБРАЛА ШТОСЬЦІ КОЖНАМУ З ВАС.


АПРАНАЙЦЕ ГЭТА, ПАКУЛЬ Я НЕ ЗМАГУ ШЫЦЬ З ГЭТАГА ВОПРАТКУ.


ТВАЁ ІМЯ НА БІРЦЫ. РАЗДАЙ АСТАТНІМ. АДРАЗУ КАЖЫЦЕ, КАЛІ ШТОСЬЦІ НЕ ПАДЫХОДЗІЦЬ ПА ПАМЕРУ.


Я ЗРАБЛЮ ВАМ ШОРТЫ, КАЛІ БУДЗЕ ЦЁПЛАЕ НАДВОР'Е... У НАСТУПНЫЯ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ Я ПАСПРАБУЮ ЗРАБІЦЬ НЕКАЛЬКІ ЦЁПЛЫХ КУРТАК, ВЫКАРЫСТОЎВАЮЧЫ ПУХ З ПАДУШАК ЯК УЦЯПЛЯЛЬНІК.


Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ВАМ ПАДАБАЕЦЦА ПАМАРАНЧОВЫ І БЕЛЫ, ТАМУ ШТО ЎСЯ ВОПРАТКА, ЯКУЮ Я БУДУ ШЫЦЬ, БУДЗЕ ГЭТЫХ КОЛЕРАЎ.


КАЛІ ХТОСЬЦІ З ВАС МОЖА ШЫЦЬ, КАЛІ ЛАСКА, СКАЖЫЦЕ МНЕ. НАС ТУТ ШМАТ І НЯМА НІВОДНАЙ ШВЕЙНАЙ МАШЫНЫ... Я ДУМАЮ, МНЕ СПАТРЭБІЦЦА ЎСЯЛЯКАЯ ДАПАМОГА, ЯКУЮ ВЫ МНЕ ПРАПАНУЕЦЕ.
ОХ , І ЯШЧЭ - КАЛІ ЁСЦЬ УЛАСНЫЯ ПАЖАДАННІ... КАЛІ ЛАСКА, СКАЖЫЦЕ, Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, ШТО ЗМАГУ.


ЯК ТОЛЬКІ ВЫ АТРЫМАЕЦЕ СВОЙ КАМБІНЕЗОН - ВЫ ВОЛЬНЫЯ. ГЭТА ЎСЁ, ШТО Я ЖАДАЛА СКАЗАЦЬ. АЛЕ, КАЛІ ЛАСКА, ПАВЕДАМЛЯЙЦЕ, КАЛІ ШТОСЬЦІ НЕ ПАДЫХОДЗІЦЬ. МЫ МАЕМ ТЫСЯЧЫ ТАКІХ. НЕ САРОМЕЙЦЕСЯ ПЫТАЦЦА... ІХ ДАСТАТКОВА, КАБ МОЖНА БЫЛО ВЫБРАЦЬ ІНШЫ.


ЛОРЫ... ТАБЕ ЛЕПШ?
НЕ.


Я НЕ ВЕДАЮ, ЯК Я МАГУ. Я НЕ МАГУ ВЫКІНУЦЬ УСЁ ГЭТА З ГАЛАВЫ. НЕ МАГУ НЕ ДУМАЦЬ ПРА ГЭТА. ТЫЯ ПАЧВАРЫ, ШТО ЗА ПЛОТАМ – ГЭТА АДНО. АЛЕ ТУТ УСЯЛЯКІ ЧАЛАВЕК МОЖА НАНЕСЦІ ШКОДУ. УВЕСЬ ЧАМ МЫ РЫЗЫКУЕМ.


ТОМАС І ДЭКСТЭР МЁРТВЫЯ, ЛОРЫ. Я ПРЫГЛЯДАЮ ЗА МІШОН... НОЧЧУ ЯНА ЗАЧЫНЕНА Ў СВАЁЙ КАМЕРЫ. ЯНА НЕ МАЕ ЗБРОІ, І МЫ УСЕ ПРЫГЛЯДАЕМ ЗА ЁЙ.
ЗАРАЗ МЫ БУДЗЕМ БОЛЬШ УВАЖЛІВЫМІ... ЗАРАЗ Я БУДУ БОЛЬШ УВАЖЛІВЫМ.
МЫ НЕ ДАЗВОЛІМ БОЛЬШ ПАДОБНАМУ АДБЫЦЦА.


АЛЕ... ЭКСЭЛ ЯШЧЭ ТУТ... І ПАТРЫЦЫЯ... ЯНА... НІХТО НЕ ВЕДАЕ, ШТО ЯНА ЯШЧЭ ЗРОБІЦЬ.


ЭКСЭЛ БЯСПЕЧНЫ, А ПАТРЫЦЫЯ ЦІ ДУРНАЯ, ЦІ НАІЎНАЯ. Я НЕ ДУМАЮ, ШТО ЯНА...
ЛОРЫ, ТЫ ДРЫЖЫШ.
Я ВЕДАЮ, РЫК.
Я ВЕДАЮ.


НІХТО НЕ РАЗМАЎЛЯЕ З ТАБОЙ, ПАТРЫЦЫЯ.
ПРОСТА СЫДЗІ. КАЛІ ЛАСКА, ПРОСТА ПАКІНЬ МЯНЕ АДНУ.


НЕ РАЗМАЎЛЯЙ СА МНОЙ ТАК. ЗАЧЫНІ ЗЯПУ І ПАСЛУХАЙ. ЖАДАЕШ КІНУЦЬ МЯНЕ... ЦУДОЎНА.
ЯНЫ РАСПАВЯЛІ ПРА ТОЕ ЛАЙНО. ПРА ТОЕ, ШТО ТЫ ЗРАБІЛА. ГЭТА НЯПРАВІЛЬНА. ГЭТА ХАЛЕРА ЯК НЯПРАВІЛЬНА. ТЫ СТРАЦІЛА КАНТРОЛЬ НАД САБОЙ.


ТЫ ВЫПУСЦІЛА ТАГО ЗАБОЙЦУ, І ЁН АМАЛЬ ЗАБІЎ ЦЯБЕ... І ТАДЫ... І ТАДЫ ТЫ ДАЗВОЛІЛА ГЭТЫМ ДВАІМ ВЫШПУРНУЦЬ НАС АДСЮЛЬ.
ТЫ АБ'ЯДНАЛАСЯ СУПРАЦЬ НАС З...
... З НІГЕРАМІ.


Я ПРОСТА ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ВЕДАЛА. Я БОЛЬШ НЕ БУДУ РАЗМАЎЛЯЦЬ З ТАБОЙ. ТЫ ПАМЁРЛА ДЛЯ МЯНЕ.


ТАКІМ ЧЫНАМ, Я ДАПАМАГАЮ ЛОРЫ ГАТАВАЦЬ ЕЖУ НА КУХНІ ДЛЯ ЎСІХ. ХЕРШЭЛ ЗАЙМАЕЦЦА ЗЕМЛЯРОБСТВАМ. АНДРЭА ШЫЕ ВОПРАТКУ. А ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ РАБІЦЬ?
ТРОХІ ПАГУЛЯЦЬ У БАСКЕТБОЛ... МАГЧЫМА ПАСПАЦЬ, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ПАСТРАЛЯЮ, КАЛІ МЫ ЗНОЙДЗЕМ БОЛЬШ ПАТРОНАЎ. У ПРЫНЦЫПЕ - НЕ ТАК ШМАТ. ЧАМУ Б НЕ ЛІЧЫЦЬ, ШТО Я НА ПЕНСІІ. ГЭТА, НАПЭЎНА, АПОШНІЯ ГАДЫ МАЙГО ЖЫЦЦЯ.


НЕ КАЖЫ ТАК! ТЫ ПАВІНЕН ШТОСЬЦІ РАБІЦЬ, ГУЛЬТАЙ!
Я ПАВІНЕН БЫЦЬ У ДОБРЫМ СТАНЕ, КАЛІ ВАМ СПАТРЭБІЦЦА МОЙ МАЛАТОК! ШТО ВЫ БУДЗЕЦЕ РАБІЦЬ, КАЛІ Я БУДУ СТОМЛЕНЫМ ПАД ЧАС НАСТУПНАГА НАПАДУ ЗОМБІ?


ОХ, ВІТАЮ.
МЫ, ЭМ, НЕ БАЧЫЛІ, ЯК ТЫ ЗАЙШЛА.


ХТОСЬЦІ КАЗАЎ МНЕ, ШТО ДЗЕСЬЦІ ТУТ ЁСЦЬ ШТАНГА. ХАЧУ ТРОХІ ПАЦЯГАЦЬ.


ТАК, ІДЗІ ДАЛЕЙ... НЕ ПРОЙДЗЕШ МІМА.
ДЗЯКУЙ.




ТЫ ЖАДАЕШ...?
ТАК.


ТАБЕ ТУТ ПАКУЛЬ ПАДАБАЕЦЦА?
А?
У МЯНЕ ЁСЦЬ ДАХ НАД ГАЛАВОЙ. ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, З ЯКІМІ МОЖНА ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ. І Я НЕ ПАВІННА ЎВЕСЬ ЧАС РУБІЦЬ ГАЛОВЫ ХАДЗЯЧЫМ МЕРЦВЯКАМ.

ТАК, МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ТУТ.

НЕ ДУМАЮ, ШТО ТАБЕ СПАДАБАЛАСЯ БЫ ТУТ...
... НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ.

ПАЧАКАЙ... Я ВЕДАЮ ЦЯБЕ... ТЫ ГУЛЯЎ СЕЗОН ЗА СОКАЛАЎ, ТАК? ГЭТА БЫЛО Ў ДЗЕВЯНОСТА ДЗЯВЯТЫМ І Ў ДВУХТЫСЯЧНЫМ?

О, БОЖУХНА... ТАК. ГЭТА БЫЎ Я. У ДЗЕВЯНОСТА ВОСЬМЫМ. ТЫ ГЛЯДЗІШ ФУТБОЛ?

Я ГЛЯДЗЕЛА СОКАЛАЎ. ГЭТА МАЁ ДРУГОЕ ЗАХАПЛЕННЕ ПАСЛЯ ЦЯЖКАЙ АТЛЕТЫКІ.
Я БАЧУ.
ТЫ НЕ АСАБЛІВА ДОБРА ГУЛЯЎ, КАЛІ Я ДАКЛАДНА ПАМЯТАЮ.
ТАМУ МЯНЕ І ВЫГНАЛІ.
ЯШЧЭ ХВІЛІНКУ, КЭРАЛ.

ПОЙДЗЕМ, ТАЙРЫС. НЯХАЙ МІШОН ТРЭНІРУЕЦЦА.


НЕ ВЕЛЬМІ ПРЫГОЖА, ТАК?
НЕ ВЕДАЮ... ДУМАЮ, ПРЫГОЖА. ТЫ БЫЦЦАМ БЫ Ў ПІЖАМЕ.
ТЫ ХВОРЫ.


ПАСЛУХАЙ... КАЛІ ТЫ ЖАДАЕШ, КАБ Я САБРАЎ СВАЕ РЭЧЫ І ПЕРАБРАЎСЯ ДА ЦЯБЕ, КАЛІ ТЫ ПРА ГЭТА ЖАДАЕШ ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ... Я ПЛАНАВАЎ ЗРАБІЦЬ ГЭТА СЁННЯ.
ТАМУ МОЖАШ НІЧОГА НЕ КАЗАЦЬ... Я НЕ ЖАДАЮ ЧУЦЬ ГЭТАГА.


НАСАМРЭЧ... ГЭТА АБСАЛЮТНА ПРАЦІЛЕГЛАЕ ТАМУ, ШТО Я ЖАДАЛА СКАЗАЦЬ ТАБЕ. УСЁ ТОЕ, ШТО Я ТАДЫ КАЗАЛА – НЕ БЯРЫ Ў ГАЛАВУ. Я БЫЛА НЕ Ў ЛЕПШЫМ СТАНЕ...
Я НЕ МАГУ ТУТ СПАЦЬ АДНА... І ТЫ МНЕ САПРАЎДЫ ПАДАБАЕШСЯ, ГЛЕН.


ПРАЎДА?


У НАШ ЧАС УСЁ ПЕРАМЕНЛІВАЕ...


У МЯНЕ ЁСЦЬ ШТОСЬЦІ СТАБІЛЬНАЕ – ХЛОПЕЦ, ЯКІ КЛАПАЦІЦЦА ПРА МЯНЕ. АДПІХНУЦЬ ЦЯБЕ БЫЛО Б ГЛУПСТВАМ.
Я МАГУ РАЗЛІЧВАЦЬ НА ЦЯБЕ.

ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ. ГЭТА ЗУСІМ НЕ ДРЭННА. МОЖНА АПРАНУЦЬ. ГЭТА ДАПАМАГАЕ НЕ МАРНАВАЦЬ ЧАС НА ПЫТАННЕ: "ШТО МНЕ АПРАНУЦЬ СЁННЯ?"

ВОСЬ БАЧЫШ! Я Ж КАЗАЛА ТАБЕ! ГЭТА ДАСТАТКОВА ДОБРА, КАБ ЗМЯНІЦЬ СВАЮ СТАРУЮ ВОПРАТКУ.

ЦАЛКАМ ЗГОДНЫ. ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ – МНЕ Б ТРЭБА БЫЛО ШУКАЦЬ ВОПРАТКУ, КАБ АПРАНУЦЬ ЯЕ.

ЯШЧЭ Б ПАЗБАВІЦЦА АД ГЭТАГА КАПЯЛЮША.

ГЭТАГА НІКОЛІ НЕ ЗДАРЫЦЦА, ЮНАЯ ЛЕДЗІ.

ДЗЯЎЧЫНА МОЖА СПАДЗЯВАЦЦА, ЦІ НЕ ТАК?

ДЭЙЛ, МЫ ЗАСТАНЕМСЯ?

НЕ ВЕДАЮ.

ТАК.

ПАКУЛЬ.

Я НЕ БАЧУ СЭНСУ З'ЯЖДЖАЦЬ. ПАКУЛЬ ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫПАДКУ.

Я ПАВІНЕН ІСЦІ. РЫК ЖАДАЕ ЗАЧЫСЦІЦЬ БЛОК-А ДА НАСТУПУ ЦЕМРЫ. Я ЗБІРАЮСЯ ДАПАМАГЧЫ ЯМУ.




А ХУТЧЭЙ?




ЭЙ,ЭЙ... ЦІШЭЙ, ХЛОПЕЦ. Я ПРОСТА ВЕЛЬМІ ЧАКАЮ З'ЯЎЛЕННЕ СВЕЖЫХ ПРАДУКТАЎ.
ПАСЛЯ ГЭТЫХ КАНСЕРВАЎ... РАЗУМЕЕШ?




Я МАГУ НЕ ПАДАБАЦЦА ТАБЕ... АЛЕ Я НАВАТ НЕ ВЕДАЎ ЯГО І ЁН МНЕ ВЕЛЬМІ НЕ ПАДАБАЎСЯ.

ПАСЛУХАЙ, Я БЫЎ ЗАЧЫНЕНЫ Ў КАФЕТЭРЫІ РАЗАМ З ІМ, АЛЕ Я НЕ БЫЎ ЯГО СЯБРАМ. ЁН АМАЛЬ НЕ РАЗМАЎЛЯЎ. У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ ЁН ІЛГАЎ МНЕ.

Я НЕ ГЛУПЫ... Я ВЕДАЮ, ШТО Я ЧУЖЫ ТУТ... І Я ВЕДАЮ, ШТО З-ЗА СВАІХ СЯБРУКОЎ-ВЯЗНЯЎ Я ВЫГЛЯДАЮ НЕ НАДТА ПРЫЕМНЫМ.

СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО Я ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЗРАБІЎ ПАМЫЛКУ. Я ЗАПЛАЦІЎ ЗА ГЭТА І ЗАПЛАЧУ ЯШЧЭ БОЛЬШ ДА ТАГО, ЯК Я ПАМРУ. АЛЕ Я НЕ ВЫРАДАК І Я...

Я Б НЕ ЖАДАЎ, КАБ ДА МЯНЕ СТАВІЛІСЯ ЯК ДА АДНАГО З ІХ.

АГА.

І ТЫ ТАКСАМА ІДЗІ Ў ГАЙ.

ЭКСЭЛ.

АЛЕН.

ХЭЙ, АЛЕН, ЗМОЖАШ МНЕ ДАПАМАГЧЫ?

ШТО ВАМ ТРЭБА?

ЖАДАЕМ ПРАЙСЦІ БЛОК-А І ПЕРАКАНАЦЦА, ШТО ЎСЁ ЧЫСТА. ПАГЛЯДЗІМ, ЦІ ЗМОЖАМ МЫ АДЧЫНІЦЬ ЯГО І ЎВАЙСЦІ.

ДАЙЦЕ ТРОХІ ЧАСУ, КАБ ПАКІНУЦЬ ДЗЯЦЕЙ З КЭРАЛ І АНДРЭА. Я ТАКСАМА ПАЙДУ.

ДОБРА, МЫ ПАЧАКАЕМ. ТЫ САПРАЎДЫ ЖАДАЕШ ГЭТАГА?




ДОБРА.
БУДЗЕМ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО БОЛЬШАЯ ЧАСТКА ХАДЗЯЧЫХ ВЫЙШЛА АДСЮЛЬ, КАЛІ ДЭКСТЭР І ЭНДРУ ДАЛІ ІМ СЫСЦІ. ГЭТА ПАВІННА БЫЦЬ ПРОСТА, ЯК І З БЛОКАМ-С КАЛІСЬЦІ - ЯК ТОЛЬКІ МЫ СЮДЫ ПРЫЕХАЛІ.
БАЧУ АДНАГО.


АЛЕН... НЕ!


ШТО? ЦІ МЫ НЕ ЗА ГЭТЫМ СЮДЫ ПРЫЙШЛІ?


ТЫ ТУТ ДЛЯ ПАДТРЫМКІ. КАЛІ ІХ БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ШМАТ - ТАДЫ ТЫ ПАЧЫНАЕШ СТРАЛЯЦЬ. АЛЕ ПАКУЛЬ МЫ ПАВІННЫ РАБІЦЬ ГЭТА ЦІХА. МЫ Ж НЕ ВЕДАЕМ, ШТО ТУТ. У ДРУГОЙ ЧАСТЦЫ БЛОКА МОЖА БЫЦЬ НАТОЎП ЗОМБІ, ЯКІЯ НЕ ПАЧУЛІ ГУКУ РАСЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРЭЙ.
СТРЭЛЫ МОГУЦЬ ПРЫЦЯГНУЦЬ ІХ СЮДЫ.


WHACK!
ОХ...

ПОЙДЗЕМ... ЧАС ПАЧЫНАЦЬ.

ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО ШЛЯХ ДА ДЗВЯРЭЙ ВОЛЬНЫ. МАГЧЫМА НАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА БЕГЧЫ, КАЛІ ІХ БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ШМАТ. ГЭТА АПОШНІЯ ПАТРОНЫ, ЯКІЯ МЫ МАЕМ. КАЛІ НАМ ПАШАНЦУЕ, МЫ ЗНОЙДЗЕМ НЫЧКУ ДЭКСТЭРА І ЭНДРУДА ТАГО ЯК МЫ СУТЫКНЕМСЯ З ВЯЛІКАЙ ГРУПАЙ.

А КАЛІ НАМ ЗУСІМ ПАШАНЦУЕ – МЫ НІКОГА НЕ СУСТРЭНЕМ.












КЭРАЛ З ГЛУЗДУ З'ЕДЗЕ. ЯНА ПЕРАЧЫТАЛА МАЛЕНЬКУЮ КНІЖАЧКУ НА ФЕРМЕ ХЕРШЭЛА ШМАТ РАЗОЎ. ЯНА БУДЗЕ ВЕЛЬМІ ШЧАСЛІВАЯ, КАЛІ ЎБАЧЫЦЬ ГЭТА.

ЛОРЫ ТАКСАМА.

ОХ, ДА... Я І ЗАБЫЎ, ШТО ТУТ БІБЛІЯТЭКА. НЕ ВЕЛЬМІ ШМАТ ЧЫТАЮ.


ОХ, ХЛОПЦЫ.


ЦІ ГЭТЫ ВЫРАДАК РУХАЕЦЦА?


НЕ. ГЭТЫ НЕ. МАЖЛІВА ГЭТА НАВАТ НЕ ЗОМБІ... МАЖЛІВА ЁН ПРОСТА ПАМЁР. ЦІ ГЭТА МАГЧЫМА?
ВЫГЛЯДАЕ, БЫЦЦАМ БЫ ЁН ЗАЧЫНІЎСЯ ТУТ І ПАМЁР АД ГОЛАДУ.
МАЖЛІВА ЁН ПРОСТА ПАМЁР?
АЛЕН.... НЕ ПАДЫХОДЗЬ БЛІЗКА. ГЭТА НЕБЯСПЕЧНА.


АААAГХ!
ГРАХХ!!!


ОХ, БОЖУХНА!!!
WHUMP!


BLAM!
BLAM!


БІБЛІЯТЭКА
ОКЕЙ, Я НЕ ЧУЮ АНІЯКІХ КРОКАЎ, СТОГНАЎ ЦІ ЧАГО ЯШЧЭ. ЗНАЧЫЦЬ, БОЛЬШАСЦЬ ГЭТЫХ ПАЧВАР ВЫЙШЛА АДСЮЛЬ І БЫЛА ЗАСТРЭЛЕНА.
МЫ СКОНЧЫМ З ГЭТЫМ ХУТЧЭЙ, КАЛІ МЫ ПАДЗЕЛІМСЯ. ТАЙРЫС І ДЭЙЛ, ВЫ ПОЙДЗЕЦЕ Ў ДРУГІ БОК. АЛЕН І ЭКСЭЛ ЗАСТАНУЦЦА СА МНОЙ.
ГУЧЫЦЬ ЯК ПЛАН.


КРЫЧЫЦЕ, КАЛІ ВАМ СПАТРЭБІЦЦА ДАПАМОГА.
ВЫ ТАКСАМА.


БУДЗЬЦЕ НАПАГАТОВЕ. ТУТ НЕ ТАК ШМАТ ВОКНАЎ І СТАНОВІЦЦА ЦЯМНЕЙ.


КАЛІ СТАНЕ ЗУСІМ ЦЁМНА, МЫ ПОЙДЗЕМ НАЗАД І ВОЗЬМЕМ ЛІХТАР ДЭЙЛА.


ПАЧАКАЙЦЕ, ХЛОПЦЫ... Я ЯШЧЭ НІЯК НЕ АДДЫШУСЯ ПАСЛЯ БІБЛІЯТЭКІ.
ЯШЧЭ ХВІЛІНКУ.



BLAM! BLAM!

ЙЕААААГТХ!!

ХАЛЕРА!










ХТОСЬЦІ СТРАЛЯЎ. ЦІ ТРЭБА НАМ ВЯРНУЦЦА?

НЕЕ. Я НЕ ЧУЎ, КАБ КРЫЧАЛІ. СТРЭЛАЎ БОЛЬШ НЕ ЧУВАЦЬ... ГЭТА НАПЭЎНА АЛЕН ІЗНОЎ СПАЛОХАЎСЯ.

НЕ ТРЭБА ХВАЛЯВАЦЦА.

ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ.

ЭЭЙ... А ШТО ГЭТА?

НЕ ВЕДАЮ. ДАВАЙ ПАГЛЯДЗІМ.

НЕБЯСПЕЧНА! ВЫСОКАЯ НАПРУГА!

ШТО ТУТ У НАС? ПАСВЯЦІ, НІЧОГА НЕ БАЧУ.

ОХ, ХЛОПЕЦ.

